© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 6 (34), сакавік 1993 г. Цана 3 рублі

ВІЦЯБЛЯНКА.

Фотаэцюд А. МЕМУСА.

## *Мілыя жанчыны, каб кожны дзень для Вас быў святам!*



## Мацярынства

(З ВЯНКА САНЕТАЎ)

Ляцеў за мной святы твой запавет:
—Жыві з людзьмі ў дружбе й спагадзе,
Будзь вернай толькі шчырасці і праўдзе,
Не наслядзі, але пакінь свой след.

Прысягу дай цяплу й дабрыні,
Пусці глыбока моцнае карэнне,
У час пасей і выспелі насенне,
І доўг зямлі патроены вярні.

Забі гадзюку, дрэва пасадзі,
Маленькага сыночка нарадзі
І вырасці, і выправі ў дарогу.

Няхай ідзе ад роднага жытла,
А ты—гані і смутак, і знямогу,—
Жыві на свеце толькі для цяпла.

* * *

Для пакалення новага жыві,
Сваё святое споўні прызначэнне:
Жанчына—гэта роду прадаўжэнне,
Яна ўсе раны можа зажывіць.

З гадамі, пэўна, бачыцца ярчэй,
Хоць і жыццё павыбеліла скроні:
Усё цяпло—у матчынай далоні
І ў паглядзе матчыных вачэй.

Я іх цяплом ратуюся ад бед.
Ад іх, адзіных, чуецца ўслед:
—У час пасей і выспелі насенне.

Сын будзе, імем дзеда назаві,
Сваё святое споўні прызначэнне,—
Хай будзе вечнай роднасць па крыві.

Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



*Гэта не павінна паўтарыцца*

# Бяспамяцтва

Хто забывае мінулае, асуджаны на яго паўтарэнне. Гомельшчына. Мазыршчына. Найпрыгажэйшыя куткі зямлі Беларускай. Людзі, што нарадзіліся пасля вайны, не ведаюць, што ў гэтай зямлі датляваюць косці многіх тысячаў нявінных ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Але ні крыжа, ні помніка, ні слова ў школьных падручніках. «Ворагі народа», якіх расстрэльвалі ў прыгажэйшых месцах Беларусі, былі апрануты ў даматканую адзежу і лапці. «Ворагаў народа» трымалі ў зонах. Адна з іх—Хальчанская калонія.

Дзіцячая дапытлівасць патрабавала тлумачэння: чаму людзей у Хальчы трымаюць за калючым дротам і водзяць пад канвоем? Хто яны, гэтыя людзі? Тады на гэтыя пытанні адказаў не было.

Расказваюць дзве жанчыны—жывыя сведкі, якія прайшлі праз Хальчанскую зону.

М. М. Асіповіч: «У 1947 годзе нас праз Аршанскую перасылку прывезлі ў Хальч. У палове бараку размясцілі 90 жанчын-маці з немаўлятамі і 30 цяжарных. У бараку халодна, пялёнкі і высушыць недзе—барак не абаграваўся. Дзяцей у нас адымалі тыднёвых і змяшчалі ў яслі спачатку ў былым панскім доме, дзе на першым паверсе жыла ахова, а потым у спецыяльна пабудаваным памяшканні. Як у інкубатары. Мацярок прыводзілі да дзяцей па шэсць разоў на дні, але дзеці не вытрымлівалі гулагаўскага рэжыму і кожны дзень паміралі. Нябожчыкаў мы адносілі на ручніках на вахту, дзе іх забіралі. Голенькіх. Мая дзяўчынка таксама памерла ў 1947-м».

«А павезлі нас усіх, 58-ы артыкул, у жніўні 48-га года,—уключаецца ў размову Я. Л. Мойшава.—У маёй дзяўчынкі быў рахіт. Думала, што яна не выжыве, але выжыла. Мяне адправілі этапам, а дзяўчынку пакінулі ў Хальчы. Прывезлі мяне на Урал. Сосьва, Сероўскі раён. Але ў хуткім часе вярнулі ў Хальч. Потым зноў этап—Маскоўская перасылка, зноў вярнулі ў Аршанскую перасылку—Юрцава пад Оршай. Адтуль у Кінгір Сцяплага. На Балхашы прыйшлося празябаць да самага 1954 года. Тэрмін скончыўся. Вызвалілі. Але... Выезду не дазволілі. Так і пражыла ў Казахстане 33 гады».

Хавалі дзяцей на краю Хальчанскіх могілак ля агароджы. Так заўсёды ў праваслаўі хавалі памёршых гвалтоўнай смерцю. І гэта сімвалічна...

Ні магільнага ўзгорка, ні крыжыка, ні помніка. Кучы смецця на месцы дзіцячых могілак—банкі з-пад фарбы, бітая цэгла, застылы цэмент. «Ніхто не забыты, нішто не забыта»? А пахаваныя тут дзеці нарадзіліся вольнымі. Іх не судзілі трыбуналам, не выносілі ў дачыненні да іх рашэнняў славутыя «двойкі» і «тройкі», асобыя нарады. Чаму ж да дзіцячых могілак такія здзеклівыя адносіны?

Трымаю ў руках карту ГУЛАГа. Гомель на ёй не адзначаны. Недакладнасць картографаў або «нязначнасць» гулагаўскіх аб'ектаў? Але Хальч і Тарасаўку—філія Хальчанскай калоніі—з рахунку не адкінеш: яны рэальна існавалі, мелі значэнне саюзнае. Пра гэта «сарамліва» замоўчваюць «афіцыйныя органы»: не ведаем, была там нейкая калонія па лініі МУС, быццам для тых, у каго малы тэрмін зняволення.

Ні помніка, ні крыжа, ні знака на Хальчанскіх могілках. Ніводнага слова аб калоніі ў Хальчанскім музеі. А месцы пахаванняў зусім непадалёку ад музея.

Тысячы чыноўнікаў займаюцца сёння пытаннем рэабілітацыі нявінных ахвяр таталітарызму. Але няма для іх, былых вязняў, сапраўднай рэабілітацыі, няма рэабілітацыі і для былых раскулачаных. Дагэтуль няма ў камісіях, што вырашаюць пытанні рэабілітаваных, саміх рэабілітаваных. Таму цяжка дамагчыся, каб на месцах масавых пахаванняў сталі помнікі. Не правадырам сусветнага пралетарыяту, а іх ахвярам.

І яшчэ. У Гомелі пішуць кнігу «Памяць». Штат аплачваемых супрацоўнікаў. Чые імёны заносяцца ў выданне? Болей ста тысяч «савецкіх грамадзян», а калі дакладней, салдат тэрміновай службы, знішчаны ў Гомельскім лагеры ваеннапалонных. Ці ведаюць пра гэта тыя, хто стварае кнігу «Памяць»? Хутчэй за ўсё не знаюць. Што ж тады пішуць—кнігу «Памяць» ці ксёнжку «Бяспамяцтва»? Калі другое, тады можна не ўзяць пад увагу гэтыя сто тысяч, а таксама загубленых у калоніі, а дакладней, у канцлагеры ў Хальчы і Тарасаўцы.

Помнік ахвярам павінен стаяць на плошчы. Бяспамяцтву трэба пакласці канец.

**І. НЯЧАЕЎ,**
**старшыня Гомельскай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсіяў.**



**Ні імёнаў, ні дат. Толькі хіліцца сонца ў зыходзе.**

*Лісты чытачоў*

## Пахавайце па-хрысціянску

Маё пакаленне 20-х гадоў нарадзілася пры савецкай уладзе і пражыло ў гэтым «блаславенным» рэжыме ўсё сваё жыццё, глытнуўшы, як кажуць, горкага да слёз. Прайшло праз усе этапы камуністычных эксперыментаў, паспытала і голаду, і холаду, перанесла вайну і ведае, што такое жабрацтва. Камуністы ставяць сабе ў заслугу перамогу ў Айчыннай вайне 1941—45 гадоў. Але перамог народ, і не таму, што кіравала камуністычная партыя, а насуперак ёй. Перамог народ, як і адолеў французскую навалу 1812 года, калі бальшавікоў не было і ў паміне. І дарэчы, вайна 1941 г. аказалася непазбежнай толькі таму, што ва ўладзе былі камуністы.

Нельга без замілавання чытаць зварот камуністаў «захаваць святыню»—Маўзалей Леніна. Чытаеш яго і выступаюць на вачах слёзы. У камуністаў вялікі вопыт у выцісканні слёз у прамым і пераносным сэнсе.

Суседняй дзяржаве нятанна ўтрымліваць манументальнае збудаванне з трупам Уладзіміра Ільіча. І не толькі дорага, але і бессэнсоўна: Ленін не быў такім, якім яго прадстаўляюць нам камуністы. Калі Леніна называюць правадыром сусветнага пралетарыяту, то не кажуць, што ён ніколі не быў патрыётам сваёй радзімы—Расіі. Але дастаткова сказаць, што бальшавікі на чале з Леніным садзейнічалі (за грошы кайзера) паражэнню Расіі ў вайне з Германіяй. І дабіліся вялікіх поспехаў у гэтым.

Заява аб тым, што труп Леніна з'яўляецца святыняй для народа, мякка кажучы, памылка.

Пакладзіце ў Маўзалей егіпецкую мумію ці штосьці падобнае і людзі пойдуць туды з той жа цікаўнасцю, з якой яны ішлі глядзець на тое, што засталося ад «камуністычнай святыні». Хочацца сказаць: пахавайце вы Ільіча па-хрысціянску, пастаўце яму помнік і пакланяйцеся, калі гэта вам так патрэбна, нясіце яму кветкі.

**М. САМСОНАЎ,**
**ветэран вайны і працы.**



**Іван ЛАЗУКА**

## БАГНА

*На бераг на цвёрды не ўзбіцца,*
*Навокал балотная твань,*
*Зачахлі даўно тут крыніцы,*
*Усюды дрыгва, як ні глянь.*

*Вакол ненажэрныя п'яўкі,*
*Прысмокчуцца—рады не даць,*
*А мошкі ў паветры, казяўкі,*
*Прасвету нідзе не відаць.*

*Тут водар, напоены гніллю,*
*Міязмы над граззю плывуць,*
*Тут пахне брыдотай і цвіллю,*
*Нячысцікі ўсе тут жывуць.*

*Ад яду, што точыць карэнне,*
*Чарот галавою панік,*
*Схаваўся ў сваіх сутарэннях,*
*Стаіўся, заціх вадзянік.*

*Ні птушкі не ўбачыш, ні звера,*
*Пазніклі, прапалі ўжо ўсе,*
*Нікому даўно няма веры,*
*Як той, на расянцы, расе.*

*Калі ж навальніца накоціць,*
*Дзе звонкі і радасны гром?*
*«Мы,—крэкчуць жабоцькі ў балоце,—*
*Нічога... прывыклі... жывём...»*

*Весткі з раёнаў*

### Але сустрэча адбылася

Як толькі Докшыцкая суполка БНФ сабралася правесці сустрэчу прадстаўнікоў Сойма БНФ з насельніцтвам, у горадзе пачаўся раптоўны рамонт будынкаў і кінатэатра, і Дома культуры. Але нягледзячы на гэта, такая сустрэча ўсё ж адбылася.

На яе прыехалі з Менска дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Г. Семдзянава, намеснік старшыні Сойма БНФ прафесар Ю. Хадыка, старшыня рэспубліканскага камітэта Свабодных прафсаюзаў Г. Быкаў. Прысутнічаў на сустрэчы і дэпутат Вярхоўнага Савета ад Докшыцкага раёна, старшыня калгаса «Зара камунізму» У. Новікаў.

Г. Семдзянава расказала аб рабоце 10 сесіі Вярхоўнага Савета, аб удзеле ў ёй дэпутатаў ад апазіцыі БНФ. Ю. Хадыка прысвяціў свой выступ мэтам ды задачам народнага фронта ў бліжэйшы час.

Г. Быкаў распавёў пра рост аўтарытэту свабодных прафсаюзаў сярод працоўных рэспублікі.

Дэпутат ВС У. Новікаў ад выступлення перад сваімі выбаршчыкамі адмовіўся.

**І. ФУРСЕВІЧ.**

### «Праўда» можа пачакаць

Сенненскія ды шумілінскія паштавікі звярнуліся да адпаведных райвыканкамаў з прапановамі зрабіць панядзелак выхадным для паштовых службаў. Абгрунтаванне: беларускія газеты ў гэты дзень не выходзяць, а замежныя, маскоўскія, могуць і пачакаць да свайго падпісчыка да аўторка.

Просьбы задаволены.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

*Падзеі*

### Камітэт свята

У Віцебску ўтвораны аргкамітэт па правядзенню ўрачыстага святкавання 75-ых угодкаў абвяшчэння Беларускае Народнае Рэспублікі. У склад камітэту ўвайшлі прадстаўнікі шэрагу дэмакратычных арганізацыяў і ўстановаў культуры.

### Якая ў нас перспектыва!

4 сакавіка пад Віцебскам адбыўся рэспубліканскі семінар рэдактараў Віцебскае вобласці, які абмеркаваў праблемы ды перспектывы дзейнасці газетаў.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



*Рэзананс*

## Партыя новага тыпу?

Нарэшце камуністы дачакаліся свайго часу. Аднаўлена дзейнасьць КПБ.

Калі да гэтай падзеі падыходзіць дэмакратычным шляхам, то нічога страшнага няма. Кожны чалавек мае свае погляды, перакананьні. У дадзеным выпадку камуністычныя. (Ня будзем пераконваць у іхнай утапічнасьці). І калі ласка, на агульных падставах зь іншымі партыямі, яднайцеся і дзейнічайце (законным шляхам), будуйце свой камунізм, (мы ўжо набудаваліся).

Але, на вялікі жаль, падобнае магчыма толькі ў дэмакратычным грамадстве. Мы ж яшчэ толькі стаім на шляху да дэмакратыі. І пагэтаму вельмі небясьпечным становіцца аднаўленьне КПБ. Бо яна ніколі не дзейнічала паводле законаў з самага пачатку сваёй гісторыі. «Ум, честь и совесть»—партыя, усю злачыннасьць якой мы нават не ў стане ўявіць.

Зараз пакрыўджаныя партапаратчыкі заяўляюць аб рэфармацыі партыі, аб прыязным стаўленьні да Адраджэньня, аб сацыяльнай абароне працоўных.

Але аб якой рэфармацыі можа йсьці размова? Чаму «рэфармаваная» партыя парушае і законы РБ, і чалавечыя правы з самых першых крокаў?

Арганізацыйнае пасяджэньне камуністаў ВА «Даламіт» праводзіцца ў працоўны час у цудоўнай кіназале Палаца культуры. (Між тым, клуб, дзе раней дэманстраваліся кінафільмы,гадоў пяць на рамоньце і жыхарам недзе паглядзець кіно, бо кіназала ПК не выкарыстоўваецца. Відаць, абалванены народ не заслужыў гэтай раскошы).

Працягам парушэньняў законаў ёсьць рэгістрацыя членаў КПБу рабочы час, у вытворчых памяшканьнях, па службовых тэлефонах (глядзіце аб'яву—**Рэд.**).

Як можна гаварыць аб абароне працоўных, не ведаючы, як, чым, якімі інтарэсамі яны жывуць, і ў той жа час даваць празрыстыя намёкі аб скарачэньні на прадпрыемстве няўступіўшых ў партыю?..

Ды, відаць, жыве Бог на Беларусі! Як кажуць рабочыя, ня клеіцца з партыяй на «Даламіце». Ня йдуць туды «трудящиеся». Бачна,наеліся «дастатку» камуністычнага «раю», досыць!

**В. ІГНАЦЕНКА,**
**сябра БСДГ.**

Объявление

В связи с отменой постановления Верховного Совета Республики Беларусь „О временном приостановлении деятельности КПБ на территории Республики Беларусь" проводится перерегистрация коммунистов желающих подтвердить членство в КПБ.

Регистрация проводится:

1 Капустина Е.В. — заводоуправление тел. 52-21

2 Суринович О.Н. — техотдел ГАП-2 тел. 55-64

3 Подобашев В.И. — карьероуправление ВПО Доломит" тел. 52-91

4. Клопов А.А. — автобаза ВПО Доломит" тел. 52-19

Партбюро парторганизации г.п Руба

## ЦІ БЫЎ ГІТЛЕР У ВІЦЕБСКУ?

У зусім нядаўнія часы здавалася ўсё ясным пра мінуўшчыну. Аднак пры ўважлівым поглядзе і ў старажытнасць, і на нядаўнія падзеі, можна заўважыць у гісторыі Віцебска шмат цікавага, малавядомага, недаследаванага...

У 1942 годзе ў горадзе дзейнічала знакамітая падпольшчыца В. Харужая. І трэцяга кастрычніка гэтага года яна паведамляла ў Маскву: «Немцы пераносяць усё пад зямлю. Пад горадам будуюцца капітальныя збудаванні. На аэрадроме ўсе самалёты пад зямлёй на глыбіні 6 метраў».

Часткова гэтае пацвердзілася пасля вайны пры будаўніцтве жылля на тым месцы. Але дагэтуль цяжка адказаць: што ж тое было?

А вось іншае паведамленне. На гэты раз М. Валошына, кіраўніка разведкі 39-й арміі, ва ўспамінах «Разведчики всегда впереди» (Москва, 1977): «6 лістапада 1943 г. у Віцебск прыязджаў Гітлер. Мы даведаліся аб гэтым з перахопленай радыёграмы».

Паўстае пытанне: а дзе ж А. Гітлер быў у амаль цалкам разбураным горадзе, які знаходзіўся ў 10—12 км ад лініі фронта?

Фюрэр любіў шык і тым болей пад пагрозай савецкага наступу не жыў у небяспечных няўтульных будынках ці зямлянках. Мажлівыя сляды ягонага часовага «пражывання» захаваліся ў раёне Лучосы побач з раддомам, дзе ёсць яшчэ рэшткі нямецкіх умацаванняў.

Дарэчы, госці з Германіі, якія летась наведалі Віцебск, таксама шукалі гэтыя «сляды» ў раёне Лучосы.

**Міледзій БУНТО,**
**выкладчык гісторыі ПТВ-96 г. Віцебска.**

## Мы выйшлі з КПБ і пойдзем у Еўропу

У гэты цяжкі для простых працаўнікоў час асабліва неабходна аб'ядноўвацца з моцнымі, незалежнымі ад урада і мясцовых чыноўнікаў прафсаюзамі, якія змогуць абараніць людзей ад самавольства адміністрацыі.

На Лукомльскай ДРЭС адбыўся сход прафсаюзнай арганізацыі Канфедэрацыі працы Беларусі (КПБ), на якім разгледжана становішча ўнутры канфедэрацыі. Паколькі ў яе складзе ў асноўным прадпрыемствы сферы абслугоўвання (гасцініцы, дзяржстрах, дамы быту, таксаматорныя паркі і г. д.), якія ў ходзе ажыццяўлення эканамічнай рэформы павінны быць прыватызаваны, а энергетыка ў большасці краін з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы, у энергетыкаў няма агульных інтарэсаў са сферай абслугоўвання.

У мэтах забеспячэння больш надзейнай сацыяльнай абароны працоўных вырашана выйсці з Канфедэрацыі працы Беларусі і ўвайсці ў склад рэспубліканскага незалежнага прафсаюза гарнякоў і хімікаў—базавых галінаў прамысловасці.

Гэты моцны прафсаюз мае добрую матэрыяльную базу, выдае сваю газету «Салідарнасць», устанавіў цесную сувязь з шахцёрамі іншых краін. У бліжэйшы час ён мяркуе ўступіць у еўрапейскую асацыяцыю базавых галінаў эканомікі.

**В. МЫКОЛЬНІКАЎ,**
**старшыня выканаўчага бюро незалежнага прафсаюза Лукомльскай ДРЭС.**

*У мясцовых філіях*

## Растуць рады, расце аўтарытэт

Докшыцкая раённая суполка БНФ утварылася толькі год назад. Тады яна налічвала каля дзесяці чалавек.

Нягледзячы на нешматлікасць, суполка правяла пэўную работу: быў арганізаваны гарадскі мітынг у падтрымку рэферэндума, праведзены збор подпісаў за рэферэндум, дзве сустрэчы народных дэпутатаў рэспублікі з гараджанамі. Умацоўваўся аўтарытэт мясцовай арганізацыі, расла й колькасць яе сяброў. Зараз суполка налічвае 50 членаў і з ёю вымушаны лічыцца гарадскія ўлады.

Пашыраюцца планы дзейнасці тутэйшых бэнэфаўцаў. Напрыклад, у бліжэйшы час мяркуецца святкаванне 75-х угодкаў утварэння БНР.

Сваю будучую працу суполка будзе праводзіць сумесна з мясцовымі актывістамі Таварыства беларускай мовы і Беларускай сялянскай партыі.

**І. ФУРСЕВІЧ.**

Докшыцы.

*Вакол культурна-рэлігійнага жыцця*

# ДЛЯ ХРЫСТА, КАСЬЦЁЛА І БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Адметнай рысай нашага часу зьяўляецца крушэньне розных стэрэатыпаў. Зараз прыйшла чарга яшчэ аднаго—аб «польскім» Касьцёле.

З моманту далучэньня Беларусі да Расійскай імпэрыі ў XVIII ст. каталіцызм разглядаўся як адмоўная зьява. Імпэрскія ўлады імкнуліся ўзмацніць свой уплыў на мясцовае насельніцтва праз праваслаўе—дзяржаўную рэлігію Расіі. Таму амаль два стагодзьдзі старанна ўзгадоўвалася думка, што каталіцызм ёсьць польская экспансія, што прыйдуць палякі, абрабуюць беларусаў, прымусяць іх забыцца пра нацыянальную годнасьць і спадчыну.

Але ўжо ў 20-я гады нашага стагодзьдзя на хвалях нацыянальнага Адраджэньня ў колах беларускай інтэлігенцыі ўзьнікла ідэя аб «беларусізацыі» Касьцёла. Ініцыятарамі былі ксяндзы Абрантовіч, Пучкар-Хмялеўскі, Сак і іншыя. На жаль, гульня «цэнтра» ў нацыянальнае Адраджэньне працягвалася нядоўга. «Беларусізацыя» Касьцёла не адбылася.

Савецкія ўлады падхапілі ідэю сваіх гістарычных папярэднікаў і рабілі ўсё для таго, каб Касьцёл на Беларусі называлі польскім, а супрацьленьне каталіцызму лічылі беларускай нацыянальнай задачай. Напрыклад, навучаньне ксяндзоў ішло за мяжой, галоўным чынам у Польшчы, бо сваіх навучальных устаноў доўгі час не было. У выніку склалася, што мовай Касьцёла стала польская, каталікі называліся палякамі, хаця меншасьць з іх добра валодае гэтай мовай і ўжывае яе ў штодзённым жыцьці.

Але нішто штучнае не існуе вечна, і вось цяпер актуальным здаецца пытаньне аб разьвіцьці Касьцёла на Беларусі. Зыходзячы хаця б з таго, што каталіцкія набажэнствы могуць весьціся на нацыянальнай мове, а сам Касьцёл не мае ніякай нацыянальнай ці дзяржаўнай прыналежнасьці, сёньняшняе беларускае Адраджэньне бачыцца ў першую чаргу праз Касьцёл.

Усьведамляючы важнасьць гэтага працэса і імкнучыся паспрыяць яму, каталіцкая моладзь Беларусі згуртавалася пад дэвізам «Для Хрыста, Касьцёла і Бацькаўшчыны» ў новую некамерцыйную культурна-асьветніцкую арганізацыю—Задзіночаньне каталіцкае моладзі Беларусі, якое аб'ядноўвае моладзь каталіцкага веравызнаньня з усяе Беларусі. Для ажыцьцяўленьня галоўнае мэты—пашырэньня хрысьціянскае веры і маральнасьці сярод моладзі, была абрана форма стварэньня суполак па магчымасьці пры кожнай парахвіі, дзейнасьць якіх каардынуецца Радай ЗКМБ. Сваім намерам мы маем дапамогу сьвятарам у пашырэньні Добрай Весткі праз асабістае вывучэньне Эвангельля і дапамогу ў катэхізацыі, арганізацыю рэкалекцыяў і пілігрымак да сьвятых месцаў, выданьне і распаўсюджваньне рэлігійнай літаратуры, дапамогу ў аднаўленьні і будаваньні касьцёлаў і кляштараў, помач хворым і састарэлым людзям, дзецям у дзіцячых дамах і г. д. Гэтым наша дзейнасьць не абмяжоўваецца, і мы вітаем усе намаганьні для Хрыста, Касьцёла і Бацькаўшчыны.

Тым, хто зацікавіўся дзейнасьцю новай арганізацыі, хто хоча з намі супрацоўнічаць альбо каму патрэбна дапамога (мы, напрыклад, маем беларускі каталіцкі сьпеўнік для хору), прапануем напісаць па адрэсе: 220005, Менск-05, п/с 242 альбо патэлефанаваць у Менск 482166.

**Анастасія КОЗЫР,**

**Менск.**

## ЧАКАЮЦЬ ДАПАМОГУ

Распачалося аднаўленне обальскай праваслаўнай Свята-Ануфрыеўскай царквы.

Аднак грошай для адбудовы мураванага храма пакуль не хапае. Пагэтаму царкоўная рада ды настаяцель Свята-Ануфрыеўскай царквы звяртаюцца з просьбаю матэрыяльна дапамагчы. Разліковы рахунак, куды можна накіроўваць ахвяраванні,—000701903 у Шумілінскім Аграпрамбанку.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





З цыкла «Стары горад».

*Віцебскія палітычныя дыялогі*

## А можа ўлада зменіцца!

—Скажыце, чаму вашая газета адзначыла двухгадовы юбілей з такім шыкам?

—Бо не спадзяецца так адзначыць трохгоддзе...

## Ты за каго!

—Ты за каго? За «белых» ці «чырвоных»?

—Я за «бел-чырвона-белых»...

## Іхная эпоха засталася

—Чаго так дрэнна стала жыць?

—Пэўна таму, што не стала «ума, чести и совести», толькі засталася «наша эпоха».

*Агляд прэсы*

## «Часопіс» № 2

На Беларусь трапіў лютаўскі нумар беластоцкага «Часопіса». У ім аб жахлівым становішчы, у якім апынулася варшаўскае аддзяленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства пасля нападу і заняцця ягонага памяшкання, піша Славамір Іванюк.

Пра «Праваслаўе, дзяржаўнасць і станаўленне грамадзянскай супольнасьці ў сучаснай Беларусі» разважае менчук Мікола Матрунчык. Яўген Мірановіч працягвае свой гістарычны артыкул «Праваслаўныя палякі». Аб мове набажэнства ў польскіх праваслаўных храмах гаворыць Вячаслаў Харужы. Яраслаў Іванюк шмат увагі прысвячае святой Еўфрасінні Полацкай. У выданні знаходзім яшчэ некалькі матэрыялаў на гістарычныя тэмы.

Сакрат Яновіч падае ў «Часопісе» чарговую частку сваіх успамінаў «Даліна, поўная лёсу».

Газета прапануе ўвазе чытачоў бягучую інфармацыю, лісты, крыжаванкі і г. д.

**Ю. С.**

## Рэпертуар Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа

**11 сакавіка** «Вежа»
**12 сакавіка** «Сылгалі Богу, сылгалі»
**13 сакавіка** прэм'ера «Кошчын дом» у 12 гадз.
**14 сакавіка** «Касатка»
**16 сакавіка** «Кошчын дом» у 10 гадз. і 12 гадз. 30 хв..
Пачатак вечаровых спектакляў а 19 гадз.

Даведкі па тэл.: **36-06-80, 36-00-43.**

## *У кінатэатрах Віцебска з 10 па 14 сакавіка*

**«БЕЛАРУСЬ»**
**«Спакуса».** 9.40, 11.30, 13.20, 15.10, 17.00, 18.50, 20.40.
**«Стэла»** (малая зала). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.
Аўтаадказчык 14028.

**«СПАРТАК»**
**«Свабодная ад мужчын».** 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.40, 21.30.
Аўтаадказчык 365121.

**«КАСТРЫЧНІК»**
**«Пастка для мары».** 9.20, 11.00, 12.40, 14.20, 16.00, 17.40, 19.00, 20.40.
Аўтаадказчык 365544.

**«БРЫГАНЦІНА»**
**«Хто каго!»** 10.30, 15.00, 17.00, 19.00, 21.00.
**«Сэрцаед».** 11.20, 16.40, 18.15, 19.50, 21.30.
**«Сафі»** (мультфільм). 9.00, 13.00, 14.15.
**Зборнік мультфільмаў.** 10.10, 15.30.
**«Талісман».** 9.15, 12.30, 13.45.
Аўтаадказчык 18179.

**«МІР»**
**«Перамога».** 10.00, 12.55, 15.50, 18.50.
**«Грандыёзнае выкраданне амерыканскіх дзяўчат».** 9.50, 11.35, 13.20, 15.05, 16.00, 18.35, 20.20.
Аўтаадказчык 362223.

**«УСХОД»**
**«У кожнага свае недахопы».** 14.00, 15.40, 17.15, 18.50, 20.25.
Аўтаадказчык 362916.

**ВІДЭАТЭАТР «ВІЦЬБА»**
Аўтаадказчык 14945.

Наступны нумар газеты выйдзе 17 сакавіка 1993 г.



Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

●

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
Адрас рэдакцыі: 210601, м. Віцебск вул. Гогаля, 17.
Тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры передруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

*Не верыцца*

## Пачатак канца!

Віцебскі раён летась страціў тры калектыўныя гаспадаркі. Замест калгасаў імя Чырвонай Арміі, імя Кірава, імя Леніна ўтвораны акцыянерныя таварыствы, адпаведна «Альгова», «Адраджэнне», «Слабада». Новыя формы гаспадарання на зямлі патрохі пракладваюць сабе дарогу. Але да істотных зменаў яшчэ далёка. Як і раней, сярод назваў калгасаў і саўгасаў раёна буяе камуністычны тапанімічны «дзядоўнік»—«Памяць Леніна», «Шлях Леніна», «Запаветы Ільіча» і г. д.

**А. БУКАЧОЎ.**

## Мовай лічбаў

Як ведама, у Еўропе апошнім часам узнік шэраг новых дзяржаў. Сёння мы падаем асноўныя звесткі пра некаторыя з іх.

**Чэшская рэспубліка** стала незалежнай 1 студзеня г. г. Яе плошча—78,84 тыс. км². Насельніцтва налічвае 10,3 млн., у тым ліку 94,5%—чэхі, 3%—славакі, 2%—венгры, 0,3%—цыганы, 0,2%—іншыя нацыянальнасці. Сталіца—Прага.

**Славакія** набыла незалежнасць 1 студзеня 1993 г. Ейная плошча—49 тыс. км². Насельніцтва—5,3 млн. (85,6%—славакі, 10,8%—венгры, 1,5%—цыганы, 1,1%—чэхі, 1%—іншыя нацыянальнасці. Сталіца—Браціслава.

## *Праграма мастацкіх фільмаў на рэшту тэлетыдня*

**СЕРАДА,**
**10 сакавіка**
**Беларускае тэлебачанне**
**9.30 і 21.35**—«Мачаха».
**13.40**—«Джэк Васьмёркін—«амерыканец». 1-я серыя.
**Канал «Астанкіна»**
**8.45 і 18.00.**—«Проста Марыя» (Мексіка).
**11.20**—«Звычайны цуд». 1-я і 2-я серыі.
**20.40**—«Ціхія могілкі».
**Канал «Расія»**
**11.05 і 19.25**—«Санта-Барбара».
**13.25**—«Маналог».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
**8.00**—«Мая другая мама».
**15.00**—«Прынц і жабрак».
**23.35**—«Уся каралеўская раць». 1-я серыя.

**ЧАЦВЕР,**
**11 сакавіка**
**Беларускае тэлебачанне**
**9.30 і 21.35**—«Мачаха».
**11.50**—«Мэгі» (Балгарыя).
**13.40**—«Джэк Васьмёркін—«амерыканец». 2-я і 3-я серыі.
**Канал «Астанкіна»**
**8.55 і 18.10**—«Проста Марыя».
**11.20**—«Голад сэрца» (Польшча).
**12.45**—«Толькі ў мюзік-холе».
**21.10**—«Каханне і галубы».
**Канал «Расія»**
**11.00 і 19.25**—«Санта-Барбара».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
**8.10**—«Рабунак апоўначы».
**15.10**—«Коннікі». 1-я серыя.
**20.55**—«Мая другая мама».
**23.50**—«Уся каралеўская раць». 2-я серыя.

**ПЯТНІЦА,**
**12 сакавіка**
**Беларускае тэлебачанне**
**9.40**—«Мачаха».
**11.15**—«Сем дзён Надзеі». 1-я і 2-я серыі.
**13.50**—«Пахаванне Сталіна».
**21.35**—«Маналог».
**Канал «Астанкіна»**
**8.20 і 15.10**—«Сёмы джын».
**20.55**—«Апошні аўтапартрэт» (Японія).
**Канал «Расія»**
**10.55**—«Санта-Барбара».
**17.00**—«Сасланы на планету Зямля». 2-я серыя.
**19.25**—«Нулявы варыянт».
**23.10**—«Іван А.»
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
**8.10**—«Мая другая мама».
**12.50**—«Выйсці замуж за капітана».
**15.00**—«Коннікі». 2-я серыя.
**0.20**—«Уся каралеўская раць». 3-я серыя.

**СУБОТА,**
**13 сакавіка**
**Беларускае тэлебачанне**
**8.25**—«Маналог».
**11.15**—«Лета ў ракавіне».
**21.35**—«Акно спальні» (ЗША).
**Канал «Астанкіна»**
**11.20**—«Змова асуджаных».
**18.45**—«Дваццаць чатыры караты смерці» (ЗША).
**20.40**—«Каралеўская лаўка 7». 5-я серыя.
**23.20**—«XX стагоддзе» (Італія). 1-я серыя.
**Канал «Расія»**
**11.15**—«Мама».
**19.35**—«Самая абаяльная і прывабная».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
**11.00**—«Матрос Чыжык».
**20.45**—«Мая другая мама».

**НЯДЗЕЛЯ,**
**14 сакавіка**
**Беларускае тэлебачанне**
**8.45**—«Мачаха».
**10.25**—«Рабро Адама».
**12.55**—«Сабака на сене».
**21.05**—«Палёт навігатара» (Нарвегія—ЗША).
**Канал «Астанкіна»**
**11.40**—«Прыгоды чорнага Прыгажуна».
**23.25**—«XX стагоддзе». 2-я серыя.
**Канал «Расія»**
**19.25**—«Брацкая любоў» (ЗША).
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
**16.40**—«Інтэрвенцыя».

*Амаль рэклама*

## «Церамок» на колах

**Беларускі тэатр «Лялька» едзе на гастролі. Аднак, на жаль, не ў Нямеччыну, куды лялечнікі меркавалі адправіцца крыху раней.**

10 сакавіка ў Барані «Лялька» пакажа «Церам-Церамок» і гэтым пачнуцца выступы тэатра на поўдні вобласці. 11, 12, 15 і 17 сакавіка спектаклі пабачыць Орша. У суботу й нядзелю артысты наведаюць Коханава ды Балбасава, а 16-га і 18-га выступяць адпаведна ў Дуброўне і Талачыне.

**Н. КІЛДЗІНГ.**

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Паліграфісты:**
**В. Карунас, Т. Халеева, Л. Драздова, А. Каспаровіч, М. Аджанс, Б. Платоўскі.**

Нумар падпісаны да друку 9.03.93 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014